Штотыднёвая газета

# Вольнае Глыбокае

vglybokaye@tut.by

Выдавец:
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

Выдаецца са снежня 1994 года

**№43 (603) 27 кастрычніка 2011 года**

Кошт свабодны.


Photo ByMedia.net

**Браслаўскі раён**

# Раўненне на "Маяк"

■ Станіслаў Раманчук

**З-за складанай фінансавай сітуацыі сёлета ў апошні момант абласныя "Дажынкі", якія намячаліся ў райцэнтры Лёзна, былі адмененыя.**

Аднак лепшых працаўнікоў сельскай гаспадаркі ў рэгіёнах Віцебшчыны ўрачыста ўшанавалі паўсюдна. Як і ў іншых месцах, у Браславе эпіцэнтрам урачыстасцей стала зала раённага Дома культуры. Дапоўніла атмасферу свята ласкавае восеньскае сонейка, а настрой сабраўшымся ўзняло ўсведамленне сумленна выкананай напружанай працы на хлебнай ніве. Як і ў суседзяў, у азёрным краі валавы збор збожжа быў намалочаны амаль у 1,5 разы больш, чым у 2010 годзе. Як зазначыў у прывітальным слове кіраўнік раёна Пётр Гішкелюк, гэта запатрабавала напружанай і зладжанай працы, арганізаванасці і высокай дысцыпліны соцень вяскоўцаў. Гаспадаркі на Браслаўшчыне атрымалі новую тэхніку, сталі асвойваць лепшыя агратэхнічныя тэхналогіі. Асаблівай падзякі быў удастоены калектыў буйнейшага сельгаспрадпрыемства краю "Маяк Браслаўскі", які зноў сабраў болей за ўсіх збожжа. Механізатар гэтай гаспадаркі Віктар Ваштаевіч стаў лепшым сяrод камбайнераў вобласці. Яго малады калега Іван Кульпо атрымаў узнагароду як лепшы малады камбайнер Віцебшчыны, а трактарыст Тадэвуш Таўкінь быў прэміраваны за самааддданую працу. Добра ідуць справы ў гэтага калектыву і ў жывёлагадоўлі. Завяршылася хлебаробскае свята канцэртам мясцовых артыстаў.

**Пастаўскі раён**

# Старасць не радасць

■ Кастусь Александровіч

**Наступіўшы эканамічны крызіс балюча ўдарыў па ўсіх, але асабліва адчулі гэта прадстаўнікі самай неабароненай часткі грамадства – пажылыя.**

Закранулі цяжкасці старых людзей і ў Пастаўскім раёне, дзе жыве адзінокіх грамадзян звыш 1200 чалавек і каля 5 тысяч адзінокапражываючых, інвалідаў, ветэранаў вайны, былых вязняў канцлагераў, якім асабліва патрэбны ўвага і клопат. Аднак калі летась з дапамогай мясцовага бюджэту такім людзям адрамантавалі 62 дамы і печы ў іх, то сёлета толькі 17. Праўда, пажарных апавяшчальнікаў у гэтым годзе ў пакоях пажылых устанавілі на 89 штук болей. Напярэдадні ацяпляльнага сезону, як высветлілася, не ўсе мясцовыя ветэраны нават з ільготнай катэгорыі насельніцтва па спісе № 2 (адзінокія пажылыя грамадзяне) атрымалі патрэбнае паліва на зіму. Толькі ў аддаленым Казлоўшчынскім сельсавеце з пададзеных 42 заявак палова вясковых бабулек чакалі, калі ім прывязуць дровы. У мясцовага лясніцтва не хапіла на ўсіх свабодных дзялянак, а завод-пастаўшчык торфабрыкету з Браслаўскага раёна працаваў з перабоямі. У гэтай сітуацыі на Пастаўшчыне адшукалі дадатковыя срокі для раённага прадпрыемства па паліве, каб не пакрыўдзіць і не пакінуць замярзаць зусім адзінокіх дзядуль і бабуль. Як выхад, пайшлі на тое, каб іншыя жыхары з дапамогай сваіх родных і знаёмых праз лясніцтвы заняліся саманарыхтоўкай дроў на пні. Ад гэтых клопатаў у раёне пазбавіліся яшчэ 9 ветэранаў, якіх накіравалі ў дамы-інтэрнаты. Больш за сто старых дажываюць век у 2-х пансіянатах і пры бальніцах, а пра 752 клапоцяцца сацыяльныя работнікі.

**Полацкі раён**

# Зямля гаспадароў любіць

■ Чэслаў Якубовіч

**Больш за сто чалавек увайшлі ў дэлегацыю Віцебскай вобласці, якая прымала ўдзел у XV свяце рэспубліканскіх "Дажынак" у Маладзечне.**

Сярод тых, каго ўшаноўвалі як сапраўдных герояў уборачнай кампаніі, быў толькі адзін прадстаўнік недзяржаўнай формы гаспадарання на зямлі. У лік прамоцаў сярод фермерскіх гаспадарак краіны ўвайшоў Сяргей Сазонаў з Полацкага раёна, які ўжо амаль 20 гадоў упарта працягвае апрацоўваць сваю зямлю. Яму было прыемна пагутарыць з такімі ж хлебаробамі-прыватнікамі, хто насуперак цяжкасцям даказвае, што гаспадар і без шчодрай дзяржаўнай дапамогі можа дабівацца нядрэнных вынікаў у параўнанні нават з многімі калгасамі. Вось і сёлета Сяргей намалаціў амаль 250 тон збожжа пры рэальнай ураджайнасці 34 цэнтнеры з гектара. За гэтае дасягненне яму ўручылі прэмію ў 21 млн. рублёў, якія ёсць куды патраціць. Калі ў калгасах шмат новых збожжаўборачных камбайнаў, то ў гэтага фермера – дзве старэнькія "Нівы" і трактары МТЗ-75 і Т-74. Добра яшчэ, што ёсць куды рэалізаваць збожжа ў сваім раёне – на мясцовы камбінат хлебапрадуктаў. Акрамя гэтага, фермерская гаспадарка Сазонава, каб пражыць, гадуе скаціну. У гэтай справе і на полі Сяргею дапамагаюць бацька, сястра і жонка, іншыя сваякі. Пасля вяртання дамоў фермер, які па-сапраўднаму любіць зямлю і ўмее на ёй працаваць, толкам і не адпачыў. Ён паспяшыў абмалаціць канюшыну і ўзараць глебу пад веснавую сяўбу.



# Лічба нумара

**52,4** млн. $ - такая, па дадзеных Белстата, узнікла ў Беларусі па стане на 1 верасня запазычанасць перад Расіяй за пастаўлены газ. Месяцам раней, на 1 жніўня, аналагічныя афіцыйныя дадзеныя паказвалі, што ніякіх пратэрмінаваных даўгоў у беларусаў перад "Газпрамам" не было. А вось цяпер наша краіна вінавата расійцам у пераліку па афіцыйным курсе Нацбанка 267,4 млрд. беларускіх рублёў з улікам таго, што валюта на аплату газу і медыкаментаў куплялася на асноўнай сесіі.

За "блакітнае паліва", дарэчы, мы аплочваем да 21-23 чысла наступнага месяца. Як вынікае з гэтага, неплацяжы за газ пачаліся ў ліпені, хоць яны і не такія значныя, як у Прыднястроўскай нікім не прызнанай рэспубліцы, мяцежнай суседкі Малдовы. Аналітыкі сцвярджаюць, што беларусы не мелі сродкаў на аплату газу і ў пачатку восені.

Так, даволі інфармаваная газета "Московские новости» паведаміла, што, па неафіцыйных звестках, пратэрмінаваная запазычанасць Беларусі за газ складае цяпер ужо 100 млн. долараў за пастаўленыя за 8 месяцаў 13,4 млрд. кубаметраў. І пачалі гуляць дадзеныя з падачы агенства "Інтэрфакс", што беларускія ўлады выказалі жаданне перанесці аплату за пастаўленае сёлета паліва на наступны, 2012 год. Беларуская дэлегацыя на чале з віцэ-прэм'ерам РБ Сяргеем Румасам прапанавала расіянам перанесці доўг роўнымі долямі на будучы год альбо праводзіць квартальныя плацяжы і, у горшым выпадку, уключыць даўгі ў новую цану на газ.

Гэтым тлумачыцца і наша гатоўнасць прадаць суседзям 50 % астаўшыхся акцый "Белтрансгазу". Цэны на газ для сваёй саюзніцы руская таксама ўжо выстаўляюць даволі высокія, хоць і меншыя, чым для іншых еўрапейскіх краін. У гэтым годзе за студзень-жнівень Беларусь купіла ў Расіі амаль 13,4 млрд. куб. метраў па сярэдняй цане 246 долараў. Такім чынам, штомесяц нам трэба было мець на аплату такіх паставак больш за 400 млн. $. Аднак сёлета абвалілася нацыянальная валюта, рост цэн дасягнуў ужо амаль 75 % і не думае спыняцца.

Відавочнае ўсім падзенне жыццёвага ўзроўню беларусаў не "заўважаюць" толькі чыноўнікі вышэйшага ўзроўню і вінавяць насельніцтва, што яно вывезла з краіны быццам 3 млрд. долараў ( на самай справе амаль на мільярд меней) на пакупку аўтамабіляў, а потым стала ў паніцы расхопліваць тавары. З-за гэтага, маўляў, і ўзніклі цяперашнія эканамічныя цяжкасці. Аднак міжволі ўзнікае пытанне: а куды дзеліся тыя 52 млрд. долараў, якімі шчодра раней дзялілася Расія з намі, пастаўляючы энерганосьбіты па нізкіх цэнах?

Атрымоўваецца, што праелі мы такія сродкі альбо ўклалі ў беларускую вёску, якая працягвае выпускаць дарагія прадукты харчавання, не можа пазбавіцца ад даўгоў і субсідый. На самай справе яшчэ некалькі гадоў Беларусь па ўзроўню жыцця была на ўзроўні Балгарыі з Румыніяй, а зараз прэтэндуе на "лаўры" беднейшай дзяржавы кантынента разам з Малдовай і пачала па заробках саступаць суседцы Украіне. Тым часам рыначны курс беларускага рубля абваліўся да гістарычнага мінімуму, і тады пасля перамоў з місіяй МВФ вырашылі тэрмінова аб'яднаць яго з афіцыйным курсам нацвалюты.

На фоне падзення жыццёвага ўзроўню стала відавочна, што беларуская эканоміка зноў патрабуе значнай знешняй дапамогі, якая складае каля 10-15 млрд. долараў. Такія грошы трэба шукаць апаратыўна, вось і з'явілі аўкцыён па продажы за 1 млрд. долараў дзяржаўнай долі апарата сотавай сувязі "МТС". Магчыма, прыйдзецца не на словах, а на справе праводзіць ураду больш жорсткую эканамічную палітыку па патрабаванні МВФ. Сярод яго рэкамендацый па выхадзе з крызісу павышэнне долі насельніцтва ў камунальных плацяжах. Народ у чаканні новага адзінага курсу і ўжо прыстасоўваецца да новай сітуацыі жыць па наяўных сродках пры змяншэнні ўзроўню даходаў.

## Надвор'е ў Глыбокім www.rp5.ru

| | чацвер 27.10.11 | | | | пятн. 28.10.11 | | | | сб. 29.10.11 | | | | нядз. 30.10.11 | | | | пн.02.05. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература, °С | +1 | 0 | +8 | +2 | +1 | 0 | +8 | +3 | +3 | +1 | +7 | +3 | +4 | +4 | +8 | +5 | +5 | +3 | +6 |
| Ціск, мм | 759 | 761 | 760 | 760 | 760 | 761 | 760 | 760 | 758 | 758 | 757 | 756 | 754 | 754 | 752 | 752 | 749 | 748 | 747 |
| Вільготнасць, % | 95 | 95 | 62 | 89 | 95 | 94 | 65 | 88 | 87 | 92 | 67 | 89 | 90 | 93 | 79 | 90 | 87 | 93 | 90 |
| Вецер м/сек | Ю-В 3 | Ю 3 | Ю-В 4 | Ю 3 | Ю-В 4 | Ю 4 | Ю 5 | Ю 4 | Ю 3 | Ю-З 4 | Ю 4 | Ю-З 2 | Ю 2 | Ю 3 | Ю 3 | Ю-З 2 | Ю 2 | Ю 3 | Ю 4 |
| | | 08:03 | 17:43 | | | 08:05 | 17:40 | | | 08:07 | 17:38 | | | 08:09 | 17:36 | | | 08:11 | 17:34 |

## Дзень за днём

**Па выніках года нават Мінэканомікі Беларусі прагназуе рост цэн на ўзроўні 100 %. Яшчэ на адзін месяц адклалі выхад на адзіны раўнаважны курс беларускага рубля. Нарэшце было падпісана пагадненне аб пабудове Расіяй АЭС у Астраўцы, першы энергаблок – у 2017 годзе. Яшчэ ў 6 раёнах на Міншчыне забаранілі продаж пладова-ягадных він. Па разліках спецыялістаў, эпідэмія грыпу ў краіне чакаецца ў канцы студзеня – пачатку лютага, аптымальныя тэрміны імунізацыі супраць хваробы – да снежня. Не ад добрага жыцця, па дадзеных Белстата, 8 % беларускіх пенсіянераў вымушаны працаваць і на заслужаным адпачынку.**

# Важнейшыя навіны свету

**Егіпет.** У ходзе хваляванняў у Каіры падчас сутычак хрысціян-коптаў з сіламі бяспекі загінулі 36 мірных грамадзян і ваеннаслужачых, каля 400 чалавек былі паранены.

**Люксембург.** На гэтай стадыі, без вызвалення ўсіх палітвязняў ЕС, як заявіла вярхоўны прадстаўнік па замежных справах Кэтрын Эштан, Люксембург не гатовы аднавіць дыялог з Беларуссю.

**Украіна.** Негатыўную рэакцыю ЕС і ЗША выклікаў прысуд – 7 гадоў турмы – экс-прэм'еру краіны Ю. Цімашэнцы за быццам перавышэнне ўлады пры падпісанні дагавору з Расіяй.

**Албанія.** На 86-м годзе жыцця памёр апошні лідар камуністычнай Албаніі Раміз Алія, які ў 1985 годзе спыніў масавыя рэпрэсіі і правёў шырокую амністыю палітычных вязняў.

**Польшча.** Яўка на парламенцкіх выбарах склала толькі 47,7 %, як і чакалася, перамогу на іх зноў атрымала правячая партыя прэм'ера Дональда Туска "Грамадзянская платформа".

**Літва.** На падпітку вечарам у Вільні памочнік беларускага пасла Я. Дзіхціеўскі на аўто з дыпламатычнымі нумарамі пашкодзіў прыпаркаваны мікрааўтобус і BMW.

**Лівія.** Нацыянальны пераходны ўрад краіны першым у свеце прызнаў нацыянальную раду Сірыі з праціўнікаў прэзідэнта Башара Асада, на якога ўзмацняецца ціск розных дзяржаў.

**Казахстан.** Падчас афіцыйнага візіту прэзідэнт Літвы Даля Грыбаўскайтэ заклікала казахаў і астатнія краіны Мытнага саюзу не дапусціць яго перарастання ў палітычны.

**Германія.** Група экспертаў адзначыла, што Беларусь – цікавае месца для нямецкіх інвестыцый, алё сёлета рызыка ў беларускай эканоміцы нарастае.

**Расія.** На фоне зацяггвання перамоў аб аб'яднанні КамаАЗа і МАЗа холдынг "Рускія машыны" накіраваў уладам РБ свае прапановы аб супрацоўніцтве з "Групай ГАЗ".

**ЗША.** Вучоныя пацвердзілі, што летам лядовае пакрыццё Арктыкі зменшылася да рэкордна нізкага ўзроўню – 4,24 мільёны кв. км, што вельмі дрэнна для чалавецтва.

**Англія.** Сёлетняя зіма ў Еўропе будзе вельмі халоднай, з зацяжнымі маразамі, папярэдзілі брытанскія вучоныя на аснове аналізаў працэсаў змен тэмпературы цячэнняў акіяна.

**Расія.** У інтэрв'ю радыёстанцыі "Эхо Москвы" сусветна вядомы амерыканскі тэлевядучы Лары Кінг заявіў, што хацеў бы наведаць Беларусь: у Мінску нарадзілася яго маці.

**Літва.** У адпаведнасці з дырэктывай ЕС, да 2016 года ў краіне захаваецца пераход на сезонны час, з лістапада розніца паміж Мінскам і Вільнюсам будзе складаць 1 гадзіну.

**Казахстан.** Сёлета з касмадрома Байканур запуск 1-га беларускага спадарожніка не адбудзецца, бо не заўсёды спрацоўвае праграма агульнага кіравання яго палётам.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** На сустрэчы з расійскімі СМІ А. Лукашэнка зноў паабяцаў, што да канца года беларусы забудуцца пра свае эканамічныя праблемы, бо крызісу ў нас няма, ёсць часовыя праблемы .

**Маладзечна.** Міністр сувязі і інфарматызацыі РБ Мікалай Панцялей уручыў асабіста сям'і Вайцяхоўскіх, мільённаму абаненту byfly, падарунак – 1 мільён хвілін Інтэрнэту бясплатна.

**Мінск.** Пры ўмове атрымання крэдытаў ад усходніх сяброў і ад МВФ Беларусь, як заявіў экс-глава Нацбанка С. Багданкевіч, зможа стабілізаваць курс $ на рубяжы 8-8,5 тысяч.

**Мазыр.** З-за складанасцей на валютным рынку РБ і праблем у мясцовага НПЗ у горадзе адклалі запланаваны на 2-е паўгоддзе капітальны рамонт шматкватэрных жылых дамоў.

**Рудзенск.** Двойчы ў дзень – раніцай і вечарам – пачалі курсіраваць адсюль у тэстывым рэжыме швейцарскія электрычкі гарадскіх ліній на Мінск. Кошт паездкі – 3 тысячы рублёў.

**Мінск.** Ля пасольства Польшчы, каб сарваць брыфінг для замежных дыпламатаў з 25 краін ЕС, міліцыя на 3 гадзіны затрымала вядомага вучонага, сацыёлага Алега Манаева.

**Гродна.** У горадзе пачалі аднаўляць сваімі сіламі адну з найстарэйшых у Еўропе харальную сінагогу, ужо адрэстаўравалі частку фасаду, пачалі мяняць вокны.

**Магілёў.** На сустрэчы з гледачамі Аляксей Дудараў заявіў, што працяг экранізацыі яго культавага фільма "Белыя росы" ў такі смутны час не плануецца, напісана толькі кніга.

**Мінск.** Свідравіна на дачы па быццам заніжаным кошце работ каштавала адстаўкі міністру юстыцыі РБ Віктару Галаванаву, а таксама галоўнаму геолагу краіны Уладзіміру Карпуку.

**Шклоў.** Адміністрацыя мясцовай калоніі зноў адмовілася зарэгістраваць шлюб экс-кандыдата ў прэзідэнты Міколы Статкевіча з каханай жанчынай Марынай Адамовіч.

**Столін.** Суд пакараў 2 гадамі турмы з адтэрміноўкай на 1 год шматдзетную 22-гадовую маці, па віне якой на падпітку летам загінуў у ваннацца для купання 10-месячны сын.

**Навагрудак.** Прадпрымальнік Уладзімір Кветка выкупіў і пачаў адбудоўваць у вёсцы Асташын музей і гатэль на сядзібе знакамітага фатографа XX стагоддзя Яна Булгака.

**Пухавічы.** Так і не знайшлося ў школах раёна месца працы для звольненай "за палітыку" настаўніцы гісторыі вышэйшай катэгорыі Наталлі Ільініч, яе ўзялі толькі пашталькёнай.

**Мінск.** Пасля выхаду на БТ скандальнай праграмы "Клуб рэдактараў"- пра крызіс звольнілі няданна прызначанага намесніка старшыні Белтэлерадыёкампаніі Васіля Манюка.

**Барысаў.** Па просьбе ФК "БАТЭ" Саюз еўрапейскіх футбольных асацыяцый перанёс на больш ранні час яго матчы Лігі чэмпіёнаў УЕФА з "Міланам" і "Вікторыяй" у Мінску.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** У разліку на аднаго жыхара вобласці сёлета рэалізавана на 1 літр болей гарэлкі і віна, чым летась, з 276 да 333 вырасла колькасць загінуўшых ад атраўлення алкаголем.

**Наваполацк.** Адразу ў 3-х намінацыях дзверы і дамафоны мясцовага ААТ "Белсплат" прызналі лепшымі на нацыянальным конкурсе "Лепшы будаўнічы прадукт года-2011".

**Лёзна.** У райцэнтры ўрачыста адкрылі аднаўлены гандлёвы цэнтр замест старога ўнівермага плошчай 1200 кв. метраў і сучасную новую аўтастанцыю з інфакіёскам.

**Орша.** У следчы ізалятар змясцілі 41-гадовага грамадзяніна Ізраіля без пэўнага месца жыхарства, які незаконна прыехаў у Беларусь і быў затрыманы на чыгуначным вакзале.

**Верхнядзвінск.** На чыгуначнай станцыі Бігосава мытнікі сумесна з КДБ зноў выявілі буйную партыю ў 65 тысяч пачак кантрабандных цыгарэт у каробках пад вугалем.

**Дуброўна.** Ацяпляльны сезон на цэнтральнай кацельні райцэнтра пачаўся на ўнікальных у РБ катлах для спальвання фрэзернага торфу, толькі пры моцных марозах уключаць газ.

**Чашнікі.** Прыватная фірма "Віполь" наладзіла выпуск унікальных у РБ керамзітных блокаў з фактурным слоем для ўзвядзення катэджаў. Яны не патрабуюць аддзелкі.

**Мёры.** З поспехам у горадзе Дзісна прайшоў восеньскі кірмаш, актыўна раскупляліся людзьмі бульба, саджанцы дрэў з розных гадавальнікаў, танная рыба з рыбгаса "Навінкі".

**Ушачы.** Ля зоны адпачынку "Вячэлле" мясцовы лясгас на плошчы 2 гектары заклаў дэндрапарк: пасадзілі першыя 200 дрэў і кустарнікаў, саджанцы набылі ў Глыбокім.

**Орша.** За незаконную здабычу 2-х дзікіх кабаноў суд прыгаварыў жыхара горада да пазбаўлення волі на 1 год і 6 месяцаў, штрафу 4,2 млн. рублёў і канфіскацыі зброі.

**Бешанковічы.** Біскуп Віцебскі Уладзіслаў Блін адслужыў імшу і асвяціў кутні камень на месцы будоўлі новага касцёла на месцы згарэўшага перад Вялікай Айчыннай вайной.

**Паставы.** З цяжкімі траўмамі даставілі ў бальніцу вучаніцу 10-га класа Лынтупскай СШ, на якую здзейсніў наезд на іншамарцы на вуліцы гарпасёлка 40-гадовы жыхар Лынтуп.

**Віцебск.** Услед за сваім футбольным калегам падаў у адстаўку і галоўны трэнер хакейнага ХК "Віцебск" Сяргей Петухоў, яго каманда займае апошняе месца ў чэмпіянаце Беларусі.

**Полацк.** Міністр культуры Беларусі Павел Латушка пацвердзіў, што ў міністэрстве абмяркоўваецца варыянт узвядзення ў горадзе драматычнага тэатра.

**Віцебск.** Вядомы літаратар Сяргей Рублеўскі прэзентаваў сваю новую кнігу "Маўчанне на ўвесь Божы свет" пра падзеі на Лепельшчыне падчас сталінскіх рэпрэсій 1937 года.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

# Замест бензіну падаражэў цукар



■ TUT.BY

**Пакуль беларускія аўтамабілісты стаялі ў чэргах на запраўках, чакаючы чарговага падвышэння коштаў на бензін, якое, насуперак чуткам, так і не адбылося ні з 22-га, ні з 23 кастрычніка, у Беларусі падаражэў цукар. Прычым кошт кілаграма вырасла менавіта да той адзнакі, якую "прарочылі" літру бензіну.**

У адпаведнасці з пастановай Міністэрства эканомікі №171 ад 22 кастрычніка, лімітавы максімальны раздробны кошт на цукар-пясок, пафасаваны ў спажывецкае пакаванне расфасоўкай ад 500 грамаў да 1 кілаграма ўключна, усталявана ў памеры 7 тысяч рублёў за кілаграм (+16,67%).

Нагадаем, што апошні раз кошт цукру павялічваўся 9 верасня – на 20% – да 6 тысяч за кіло. Усяго ж, па дадзеных Белстата, за студзень-верасень 2011 года кошт на цукар вырас больш як удвая - на 101,6%.

Пастанова абавязвае юрыдычныя асобы і індывідуальных прадпрымальнікаў, якія маюць аб'екты аптовага, раздробнага гандлю і грамадскага харчавання, зрабіць па стане на 24 кастрычніка 2011 года пераацэньванне рэштак цукру ў адпаведнасці са зменамі, прадугледжанымі пастановай, з адначасовым зніжэннем розніцы ад пераацэньвання рэштак прадукцыі паводле заканадаўства Рэспублікі Беларусь.

Пастанова ўступае ў сілу з 24 кастрычніка.

# 1 лістапада пенсіі ў Беларусі будуць павышаны прыкладна на 20%

■ Сяргей Каралевіч, БелаПАН

**Рост пенсій з 1 лістапада складзе каля 20%, заявіў віцэ-прэм'ер Анатоль Тозік, адказваючы 21 кастрычніка на пытанні парламентарыяў.**

Тозік падкрэсліў, што ў хуткім часе пенсіі "плануецца значна падняць".

Ён таксама зазначыў, што "стратэгія сацыяльнай падтрымкі, якая будзе ажыццяўляцца ў Беларусі, скіраваная ў бок максімальнай канкрэтызацыі і максімальна кропкавага вырашэння пытання". "Агулам цяжка вырашаць, таму што вельмі многія прыстасоўваюцца пад агульныя нарматывы і знаходзяць у іх шчыліны", — сказаў віцэ-прэм'ер.

Як паведамлялася раней, у Беларусі рэальны памер пенсій (разлічаных з улікам інфляцыі) у верасні 2011 года ў параўнанні са жніўнем знізіўся на 12%.

Паводле інфармацыі Белстата, у верасні 2011 года на ўліку знаходзіліся 2 млн. 470,5 тыс. пенсіянераў, сярэдні памер прызначаных ім пенсій склаў 767,1 тыс. рублёў, што ў 2,1 разу перавышае бюджэт пражытачнага мінімуму для пенсіянераў. Сярэдні памер пенсій па ўзросце склаў 795,2 тыс. рублёў, па інваліднасці — 706,2 тыс. рублёў, у сувязі са стратай карміцельца — 511,3 тыс. рублёў, сацыяльных пенсій — 411,6 тыс. рублёў.

**Чалавек ніколі не можа задаволіцца тым, што дала яму прырода; дзейнае ўмяшанне яго самога будзе неабходна. Падобна таму, як ён змяніў прыроду жывёл і раслін, чалавек павінен будзе змяніць і сваю ўласную прыроду для таго, каб зрабіць яе больш гарманічнай.**

*І.І.Мечнікаў.*

# Чалавек... або прырода?

## Хто пераможа ў барацьбе за экалогію?



■ **Фадзей Шымуковіч,** *педагог-пенсіянер, г. Дзісна.*

Канечне, чалавек змяніў сваю прыроду. Але ці зрабіў ён яе гарманічнай? “Прырода не прызнае жартаў; яна заўсёды праўдзівая, заўсёды сур’ёзная, заўсёды строгая, памылкі зыходзяць ад людзей”, - вучыў нас І.Гётэ. Ці ўлічвае гэтыя прапісныя ісціны чалавек у сваёй практычнай дзейнасці і да чаго гэта прыводзіць?

Калі высякалі экватарыяльныя лясы, пазбаўляючы прыроду лёгкіх для насычэння паветра кіслародам, прычына была ў жаданні капіталістаў здабыць грошы любым шляхам. Калі рушыцца ўстарэлая дамба, гідраэлектрастанцыя, пабудаваная з парушэннем тэхналогій, мы падазраём тэрарыстаў. Але мноства катастроф здараюцца па больш банальных прычынах. “Не патрэбна шукаць злога намеру там, дзе здарэнне можна растлумачыць глупствам”, - гэта прынцып, які называецца “брытвай Хэнлона”. Нямала ўрону прыродзе чалавек нанёс і прадаўжае наносіць па сваім глупстве выключна ў сілу сваёй недальнабачнасці.

Ёсць вядомая прыказка “сем разоў адмерай, адзін раз адрэж”. Многія разумныя спецыялісты адмерваюць не толькі сем, а дваццаць сем разоў, а то і больш, каб не дапусціць памылкі. Але многія не жадаюць адмерваць і два разы, а рэжуць як Бог на душу пакладзе, а дакладней, як сатана падкажа.

Калі запытацца любога з нас, якія беды можа прынесці чалавецтву дно акіяна, наўрад ці хтосьці назаве нервова-паралітычны газ і мыш’як. А між тым іменна пра іх размова. Паміж 1946-м і 1972-м гадамі не адна і не дзве краіны пазбавіліся ад сваёй устарэлай хімічнай зброі масавага паражэння простым і, на першы погляд, надзейным спосабам: скінулі бочкі ў мора.

На сённяшні дзень ужо больш за 500 чалавек, у асноўным рыбакоў, пацярпелі ад выходзячага на паверхню іпрыту, гарчычнага газу і зарыну. Апошні ператвараецца ў газападобны мыш’як, калі ўступае ў рэакцыю з марской вадой. І гэта пакуль кветачкі – старыя бакі толькі пачалі ржавець і разбурацца. Галоўная праблема – вельмі цяжка ўдакладніць, дзе іменна праходзіў выкід і ў якім аб’ёме ядавітыя рэчывы былі захаваныя такім чынам.

А колькі ў нашых калгасах і саўгасах, на складах хіміі захоўвалася, калі гэту безгаспадарчасць можна назваць захоўваннем, рознага роду гербіцыдаў і ядаў для барацьбы з хваробамі раслін? Дзе яны знаходзяцца да сягоняшняга дня і што можна ад іх чакаць? Адны пацёмкі!

Узяць, да прыкладу, Азіяцкае Карычневае Воблака (АКВ). Гэта не выдумка фантастаў. Аграмадная, якая бачна з космаса, гразевая хмара ўтвараецца са студзеня па сакавік над Індыйскім акеанам. Па плошчы яна перавышае тэрыторыю ЗША (больш за 10 тыс. кв. кіламетраў) і дасягае трох км у вышыню. Усё гэта – прадукт спальвання вугалю і біямасы, выхлапаў старых аўтамабіляў і іншае. З-за сухога надвор’я ў гэты час года не адбываецца натуральнага ачышчэння паветра і шкодныя часцінкі назапашваюцца ў атмасферы. Прырода не паспявае ліквідаваць тую шкоду, якую ёй наносіць чалавек. Але ці толькі прыродзе наносіць шкоду чалавек? “Прырода ніколі не змагаецца з чалавекам, яна не настолькі разумная, каб змагацца, ёй усё роўна… Прырода не можа пярэчыць чалавеку, калі чалавек не пярэчыць яе законам. Людзі гэта ведаюць і на гэтай аснове валодаюць марамі і сушамі,” – пісаў А.І.Герцэн. Але ці заўсёды чалавек ведае, а галоўнае, улічвае законы, па якіх развіваецца прырода, ці заўсёды ён у сваёй дзейнасці імкнецца да гармоніі з прыродай? Не ведаю, у адным нашым Мёрскім раёне або на ўсёй вобласці засвоілі “перадавы” метад унясення мінеральных угнаенняў па снежным покрыве? Кожнаму вядома, што частку гэтых угнаенняў панясе талая вада ў ручаі і рэкі. Кожны ведае “эфект” гэтага працэсу. А цэлае паломніцтва дзеля неадкладнага павышэння ўраджайнасці: масава ўносілі аміячную ваду, травячы флору і фаўну. Знішчылі ўрадлівую глебу. Прыродзе дзесяцігоддзямі прыйшлося выпраўляць памылкі чалавека.

“Творчасць прыроды і творчасць чалавека рознянца адносінамі ў часе: прырода стварае сучаснасць, чалавек стварае будучыню”, - вучыў нас М.М.Прышвін. Але творчасць прыроды і чалавека рознянца не толькі ў часе. Прырода заўсёды стварае, а чалавек часта наносіць велізарную шкоду і прыродзе, і чалавецтву. У свой час знайшліся “разумныя”, але непісьменныя дзялкі, якія пажадалі асушыць адзінае ў Еўропе ўнікальнае балота “Ельню”. Дзякуй Богу, не паспелі натварыць бяды. Зараз наадварот, на рачулках і ручаях будуюць дамбы, каб паднячь узровень вады на балоце. А вось асушэнне балот на Палессі прывяло да рэзкай змены клімату, начныя маразы ў 3-5 градусаў сур’ёзна нішчаць ураджай. Аказалася, што балоты самыя моцныя крыніцы абагачэння паветра кіслародам. Зараз прыходзіцца траціць вялізныя сродкі на працэс забалочвання торфараспрацовак на месцы былых балот. Вось што значыць па глупстве рэзаць, не адмераўшы сем разоў.



**Возера Белае (каля Бушыкаў) з вышыні птушынага палёту.**

Вось і “Вольнае Глыбокае” піша, што толькі ў мінулым годзе 128 разоў вадаёмы вобласці забруджваліся стокавымі водамі і нечыстотамі з ферм. Нават рэчка Віцьба, якая працякае па абласным цэнтры, забруджаная. Або экалагічная катастрофа рэчкі Крапіванкі, створаная свінаводчым комплексам “Задняпроўскі” з-за прарыву ачышчальных збудаванняў. Ці ж нельга было гэта своечасова ліквідаваць?

**Усю зіму метадычна знішчаўся ўнікальны беразняк каля дарогі Дзісна-Лужкі, створаны прыродай за апошнія прыкладна 60-65 год. А галоўнае, з якой мэтай?**

**У гэты час у навакольных лясах ад ветравалу, сухастою і буралому чорт босы не пройдзе, зламае ногі.**

Усю зіму метадычна знішчаўся ўнікальны беразняк каля дарогі Дзісна-Лужкі, створаны прыродай за апошнія прыкладна 60-65 год. А галоўнае, з якой мэтай? На мясцовае паліва ішла дзелавая бярозавая драўніна, прыгодная для вытворчасці фанеры, мэблі і іншых вырабаў. У гэты час у навакольных лясах ад ветравалу, сухастою і буралому чорт босы не пройдзе, зламае ногі. Індывідуальным прадпрымальнікам па нарыхтоўцы дроў замест таго, каб прыбіраць буралом і ветравал, адводзяць дзялянкі суцэльнай рубкі, дзе на дровы ідзе дзелавая бяроза, альха і нават клён, ясень. А гэта ж у разумных руках валюта, г.зн. і газ, і нафта, і мазута, і многа чаго іншага. А з пункту гледжання экалогіі – гэта паветра, ачышчанае ад пылу, насычанае кіслародам і вельмі карыснае для нашага здароўя.

Помню, глыбокай восенню да замаразкаў 1939 года, калі балота “Ельня” стала дзяржаўнай уласнасцю, мужыкі з навакольных вёсак і хутароў масава кінуліся на балота нарыхтоўваць на дровы карчы, у іх ліку быў і мой бацька. Пры польскай уладзе можна было таксама весці нарыхтоўку, але па дамове з панамі-уладальнікамі участка гэтага балота, і не дарма, а за грошы або адпрацоўку. А тут дармаўшчына! Потым усю зіму 1940 года, нягледзячы на 40-градусны мароз, па замерзлым балоце на конях гэтае багацце звозілі да хат. Бацька навазіў цэлую вялізную кучу, якой нам хапіла год на 5-6. Гэта было гарманічнае супрацоўніцтва з прыродай. Усё, што не магло быць выкарыстана як будаўнічы матэрыял, як дзелавая драўніна, ішло на дровы. А між іншым траюрадны бацькаў брат, каваль па прафесіі, з жалезнай 250-літровай бочкі змайстраваў устаноўку, пры дапамозе якой з гэтых карчоў гнаў дзёгаць. Сёння мы ў параўнанні з нашымі продкамі драўніну выкарыстоўваем паварварску. Калі японцы купляюць дзялянку лесу для высечкі, то яны ў справу пускаюць 96-97% біямасы: карчы, сукі, апілкі, лісце – усё ідзе ў перапрацоўку. Мы – максімум 50-55%.

А варварскія адносіны да выкарыстання зямлі, вады? Мы захапляемся галандцамі, шведамі, нарвежцамі і іншымі народамі, дзе кожны квадратны метр зямлі эксплуатуецца граматна і з карысцю, у той час як у самі гектарамі “малаўрадлівыя” плошчы зарастаюць пустазеллем і хмызняком. Быў цудоўны артыкул у газеце “Вольнае Глыбокае” Алеся Гая, як жанчыны высякалі хмызняк каля дарогі. Цікава, якая карціна сёння на гэтых плошчах?

Сёння больш за 2 мільярды чалавек пакутуюць ад недахопу чыстай прэснай вады. Кажуць, што будзе час, калі пітная вада вада будзе даражэйшай за нафту. Веру, такое можа быць. Чалавек некалькі дзясяткаў сутак можа пражыць без ежы. А без вады? І жывёльны, і раслінны свет без вады памрэ. Дык чаму ж мы так безалаберна адносімся да галоўнага нашага багацця – вады?

У загалоўку пастаўлена актуальнае пытанне. Ідзе вайна, аб’яўленая чалавекам самой прыродзе, калысцы, у якой мы нарадзіліся і жывём. З усімі цяжкасцямі, якія мы падносім нашай матухне-прыродзе, яна спраўляецца. Але як доўга гэта можа працягвацца? Ці не прасцей узяцца за розум? А гэта ўсяго толькі ўзгадніць свае дзеянні з прыродай па прынцыпе гармоніі «прырода-чалавек».



**У жніўні валанцёры АПБ і захавальнікі Ельні і некалькіх іншых тэрыторый, важных для птушак, аб'ядналіся для таго, каб абследаваць і адрамантаваць плаціны, якія перакрываюць каналы на балоце Ельня. Традыцыйныя лагеры «Выратуем Ельню разам!», фундаваныя ІП «Кока-Кола Беўрыджыз Беларусь» сумесна з адміністрацыяй ГПУ «Ельня», арганізуюцца АПБ з 2007 года.**

# Па факце катастрофы пагранічнага верталёта Беларускай ваеннай пракуратурай распачата крымінальная справа

Следчы аддзел Беларускай ваеннай пракуратуры вечарам 20 кастрычніка распачаў крымінальную справу на падставе ч. 2 арт. 465 КК (парушэнне правілаў палётаў або падрыхтоўкі да іх, што мела вынікам па неасцярожнасці смерць двух ці больш асоб) па факце катастрофы верталёта AS 355NP Ecureuil, які належаў органам пагранічнай службы Беларусі. Пра гэта БелаПАН паведамілі ў Генеральнай пракуратуры.

Для расследавання акалічнасцяў катастрофы створана следчая група. Месца падзення паветранага судна ачэплена, на ім працягваюцца работы спецыялістаў. У асобным авіяцыйным атрадзе органаў пагранслужбы ў Паставах забіраюцца дакументы, звязаныя з тэхнічным станам верталёта, перадпалётнай падрыхтоўкай экіпажа і іншая лётная дакументацыя. Расследаванне знаходзіцца на кантролі Генеральнай пракуратуры.

«Еўракоптэр» органаў пагранслужбы Беларусі са здымачнай групай ТРА «Саюз» на борце разбіўся 20 кастрычніка прыблізна ў 15.45 каля вёскі Вілейты Пастаўскага раёна Віцебскай вобласці прыкладна за кіламетр ад беларуска-літоўскай мяжы. На борце знаходзілася пяцёра чалавек: два члены экіпажа (Ігар Скварцоў 1965 г.н. і Андрэй Пякарскі 1979 г.н.) і тры прадстаўнікі ТРА «Саюз» (Юлія Шатэрнік, 1983 г.р., Віталь Прачкоўскі, 1974 г.н. і Сяргей Шамалаў ,1972 г.р.). Верталёт упаў і загарэўся. Усе людзі, якія знаходзіліся на борце, загінулі. «Еўракоптэр» выконваў планавы палёт па ахове дзяржаўнай мяжы.

*Вячаслаў Будкевіч, БелаПАН.*

# Мужчына ледзь не загінуў, капаючы калодзеж. Ратавальнікам спатрэбілася каля пяці гадзін, каб вызваліць небараку





**Калі мужчына знаходзіўся на 10-метровай глыбіні, сценкі калодзежа абваліліся і яго засыпала грунтам.**

Ратавальнікам спатрэбілася каля пяці гадзін, каб вызваліць небараку. Выкарыстоўвалася спецтэхніка, аварыйна-выратавальнае абсталяванне, шанцавы інструмент. Калі пацярпелага нарэшце дасталі з калодзежа, медыкі дыягнаставалі ў яго сіндром працяглага сціскання і моцнае пераахаладжэнне. Мужчына шпіталізаваны.

Інцыдэнт адбыўся ў вёсцы Цётча Ушацкага раёна 15 кастрычніка, паведамілі ў Віцебскім абласным УМЧС.

news.vitebsk.cc

# Пра часовую забарону на выезд за мяжу грамадзянам Беларусі будуць паведамляць на наступны дзень пасля прыняцця рашэння

**Пра часовую забарону на выезд за мяжу грамадзянам Беларусі будуць паведамляць на наступны дзень пасля прыняцця такога рашэння. Адпаведная норма прадугледжана папраўкамі ў законы па пытаннях выезду з Беларусі і ўезду ў яе, паведаміў 21 кастрычніка журналістам член камісіі па правах чалавека, нацыянальных адносінах і сродках масавай інфармацыі Яўген Мельнікаў.**

Законапраект быў разгледжаны ніжняй палатай парламента 20 кастрычніка адразу ў двух чытаннях ў закрытым рэжыме. Паводле слоў Мельнікава, нічога «сакрэтнага» ў законапраекце няма, «проста некатораядаведачнаяінфармацыя, якая спатрэбілася дэпутатам падчас падрыхтоўкі законапраекта, ішла пад грыфам «для службовага карыстання».

Дэпутат сцвярджае, што законапраект не стварае дадатковых перашкод для выезду грамадзян Беларусі за мяжу. Паводле яго слоў, пералік такіх асоб удакладняецца, у прыватнасці карэкціруецца спіс асоб, якім часова забараняецца выезд у сувязі з фінансавай запазычанасцю.

Законапраектам прадугледжана норма, якая дае грамадзянам права абскардзіць рашэнне аб уключэнні ў спіс часова невыязных «у вышэйстаячых інстанцыях».

Мельнікаў таксама заявіў, што частка законапраекту тычыцца ўезду ў Беларусьзамежных грамадзян. У прыватнасці, зараз замежнаму грамадзяніну можа быць адмоўлена ў выдачы візы, калі ён на працягу года ўчыніў на тэрыторыі Беларусі два адміністрацыйныя правапарушэнні. Пасля набыцця моцы новага законапраекту такіх правапарушэнняў можа быць пяць і больш.

Апрача таго, новы законапраект прадугледжвае абавязковае набыццё замежнымі грамадзянамі медыцынскай страхоўкі пры ўездзе на тэрыторыю Беларусі.

*Сяргей Каралевіч, БелаПАН*

# У Беларусі неабходна павышаць пенсійны ўзрост, мяркуе віцэ-прэм'ер Тозік

**У Беларусі неабходна павышаць пенсійны ўзрост. Пра гэта заявіў віцэ-прэм'ер ураду Беларусі Анатоль Тозік 21 кастрычніка, адказваючы на пытанні журналістаў.**

«Але рабіць гэта трэба так, каб чалавек сам быў зацікаўлены пазней сыходзіць на пенсію», — мяркуе ён.

Паводле яго слоў, Беларусь вывучае вопыт суседніх краін, у тым ліку Украіны. «Ніякіх рэзкіх рухаў у нас не будзе. Будзем прапаноўваць кіраўніку дзяржавы такі варыянт, які найбольш прымальны і пад'ёмны для краіны і выгадны для грамадзян», — сказаў Тозік.

Віцэ-прэм'ер таксама ўдакладніў, што ў Беларусі на 2,5 млн. пенсіянераў зараз прыпадаюць 4 млн. працуючых. Ён падкрэсліў, што ў будучым кольксць пенсіянераў будзе павялічвацца, а працуючых – скарачацца.

Тозік таксама заявіў, што павышэнне зарплат, пенсій і дапамог будзе ісці за кошт даходаў бюджэту. Ён падкрэсліў, што ніякіх эмісійных рэсурсаў для вырашэння гэтых задач не прадугледжана.

Нагадаем, Аляксандр Лукашэнка, выступаючы 21 красавіка з пасланнем да беларускага народа і парламента, заяўляў, што пенсійны ўзрост у Беларусі павышацца не будзе.

«Ні пра якое павышэнне пенсійнага ўзросту або абмежаванне правоў пенсіянераў, якія працуюць, гаворка не ідзе. І ўсякія спекуляцыі на гэту тэму трэба спыніць. У нас невялікая пенсія, і калі пенсіянер працуе — дзякуй яму, значыць, ён патрэбны на вытворчасці», — сказаў кіраўнік дзяржавы.

*Таццяна Каравянкова, БелаПАН*

# Дапаможам бліжняму!

Звяртаемся да тых, хто нераўнадушны да чужой бяды і гатовы дапамагчы бліжняму. «У Глыбоцкім псіханеўралагічным доме-інтэрнаце для састарэлых і інвалідаў» знаходзяцца хворыя розных узроставых катэгорый – прыкладна ад 20 да 80 гадоў, якія маюць вялікую патрэбу ў любым адзенні і абутку і матэрыяльнай дапамозе. Калі ў Вас ёсць рэчы ў добрым стане, якія выйшлі з моды ці надакучылі, і Вы не супраць падзяліцца імі, просьба звяртацца непасрэдна ў вёску Петрунова ці патэлефанаваць: 3-93-74, 3-93-96.

**Нашы рэквізіты:**

**211809, Віцебская вобласць, Глыбоцкі р-н, п/а Мярэцкія, в. Петрунова; тэл/факс 3-93-74.**

**ЦБУ №208, г. Глыбокае, ААТ «АСБ Беларусбанк», г. Полацк.**

**МФО 150801648,**

**рахунак бюджэтны № 3604301008205,**

**рахунак пазабюджэтны № 3632301008206,**

**УНН 300022379.**

# Каманда СПМК-26 стала пераможцай турніру

## Першынство Глыбоцкага раёна па шашках

Нечакана для ўсіх каманда СПМК-26 стала пераможцам шашачнага турніру, які адбыўся 22 кастрычніка ў памяшканні Глыбоцкага дзяржпрафліцэя і ўшчэнт разбурыла міф аб непераможнасці мацнейшых шашыстаў у раёне – каманды ГЭС, адцясніўшы іх на 4 прыступку. Гэта быў другі пройгрыш энэргетыкаў за ўвесь час правядзення працоўных спартакіяд. У 2008 годзе каманда ГЭС заняла другое месца, саступіўшы камандзе ЖКГ.

Нагадаю, гэтыя спаборніцтвы ўваходзяць у склад круглагадовай раённай працоўнай спартакіяды сярод устаноў, арганізацый і прадпрыемстваў Глыбоцкага раёна.

Згодна судовага пратакола, мацнейшымі сярод жанчын сталі: 1 месца – Т. Рубашка – ГЭС, 2 – Н. Тумчонак – ЖКГ, 3 – Л. Астрэйка – лясгас.

Сярод мужчын на першай дошцы пераможцам стаў А. Апяцёнак - ГЭС. В. Ажэль – СПМК-26 – не прайграўшы ні адной партыі, заняў другое месца. На трэцім месцы прадстаўнік мясакамбіната С. Грыневіч.

Лёс як у камандным, так і ў асабістым першынстве вырашаўся на другой дошцы і на апошніх хвілінах апошняй партыі. У выніку ў асабістым заліку пераможцам стаў С. Цыганкоў – СПМК-26, другое месца П. Сікора – Ліцэй, трэцяе – В. Кухта – Мясакамбінат.

У камандным заліку: 1 – СПМК- 26, 2- Ліцэй, 3 – Мясакамбінат.



**Сярэбраны прызёр сярод жанчын Наталля Тумчонак (ЖКГ).**

Каманды ГЭС, ЖКГ, АП №16, Лясгас, Купцовъ, Райпа, Суд падзялілі адпаведна з 4 па 10 месцы.

**28 кастрычніка 2011 года ў Беларусі праводзіцца Адзіны прафілактычны дзень па лініі ДАІ пад дэвізам:**

**«Флікер – мой дарожны талісман!»**

**(прафілактыка ДТЗ у цёмны час сутак, прапаганда выкарыстання светавяртальных элементаў).**

# ФЛІКЕР – твой дарожны талісман!




■ **Ю.В. Заяц,**
*часовы выканальнік пасады начальніка АДАІ Глыбоцкага РАУС, маёр міліцыі.*

28 кастрычніка 2011 года на тэрыторыі Глыбоцкага раёна пройдзе Адзіны дзень бяспекі дарожнага руху, прысвечаны выкарыстанню светазваротных элементаў

Дзеянні кіроўцы на 90% залежаць ад атрыманай ім візуальнай інфармацыі. У цёмны час сутак чалавечае вока ўспрымае толькі 5% ад таго, што ён у стане адрозніць днём. Таму ўвечары, з 16 да 24 гадзін, па статыстыцы фіксуецца самая большая колькасць дарожных аварый. Узяць, да прыкладу, першую дэкаду кастрычніка. З 01$^{00}$ да 16$^{00}$ па Віцебску і вобласці адбылося 9 дарожных здарэнняў, а ўжо з 16$^{00}$ да 24$^{00}$ – 18 ДТЗ, што ў два разы больш, чым у першай палове дня.

Пераважная колькасць аварый - гэта наезды аўтатранспарту на пешаходаў, калі кіроўца занадта позна выяўляе ідучага па дарозе чалавека ў цёмны час сутак, асабліва калі пешаход апрануты ў цёмнае адзенне, якое зліваецца з фонам дарожнага палатна, а ў горадзе гэта праблема пагаршаецца візуальным шумам, святлом фар ад сустрэчнага транспартнага струменя. Кіроўца заўважае пешахода з адлегласці не больш чым 25 - 30 метраў, і нават пры хуткасці руху 50 км/гадзіну тармазны шлях аўтамабіля перавышае дадзеную дыстанцыю.

У Правілах дарожнага руху, зацверджаных Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, замацавана норма абавязковага выкарыстання светазваротных элементаў у цёмны час сутак пры руху па краі праезджай часткі, а таксама пры яе скрыжаванні.

Кіроўцы бачаць пешахода, які мае светазваротныя элементы, са значна большай адлегласці ў параўнанні з пешаходамі без іх. Адлегласць, з якога бачны «пазначаны пешаход», павялічваецца ў 1,5-3 разы, рызыка наезду транспартнага сродку змяншаецца на 85%.

Паколькі чалавек увесь час рухаецца, прамяні святла падаюць на яго пад рознымі вугламі, адмысловае начынне святловяртальнікаў дазваляюць адлюстроўваць святло ў тым кірунку, адкуль ён падае, святлоадбівальны элемент будзе бачны заўсёды: дождж, змрок, снег, град – не перашкода.

**Паважаныя дарослыя!** Выходзячы на вуліцу, асабліва ў вячэрні час, паклапаціцеся пра тое, каб вы і вашае дзіця было пазначаны светазваротнымі элементам, прымацаваным да адзення, сумачкі ці ранца. Будзьце ўпэўненыя: кіроўцы не прапусцяць адбіты сігнал такога талісмана!

Светазваротныя элементы (падвескі, налепкі, нарукаўныя павязкі, камізэлькі) можна заўсёды купіць у крамах нашага раёна.

# Цеплавыя сеткі тояць вялікую небяспеку

## Аб прафілактыцы цеплатраўматызму

■ **Ю.А. Рацькові́ч,**
*дзяржаўны інспектар па энергетычным наглядзе Глыбоцкага МРА ф-ла «Энерганагляд».*

За акном – восень. Пачаты ацяпляльны сезон, і доўгачаканае пацяпленне ў нашых дамах, установах і арганізацыях наступіла. У кожным прадпрыемстве (установе) маецца кваліфікаваны персанал, які займаецца абслугоўваннем і рамонтам цеплавыкарыстальных усталёвак (гэта абсталяванне цеплавога пункта, водападагравальнік, сістэмы ацяплення і гарачага водазабеспячэння) і цеплавых сетак. Гэты персанал штогод праходзіць праверку ведаў па сваёй спецыяльнасці і таму ведае ўсе неабходныя меры бяспекі для прадухілення цеплатраўматызму.

А гэты артыкул прызначаны для жыхароў г. Глыбокае і Глыбоцкага раёна, уключаючы дзяцей і людзей пажылога ўзросту.

**У мэтах бяспекі неабходна памятаць, што забараняецца:**

● хадзіць па трубаправодах цеплавых сетак (гэта звязана з рызыкай для жыцця);

● пранікаць у цеплавыя камеры (гэта звязана з рызыкай для жыцця);

● пранікаць за агароджы ў месцах рамонту трубаправодаў цеплавой сеткі (у адваротным выпадку магчыма атрымаць непапраўную шкоду здароўю, аж да смяротнага зыходу);

● пранікаць у цеплавыя пункты, круціць засаўкі на трубаправодах (вялікая верагоднасць выводу з ладу сістэмы ацяпленне, атрымаць апёкі);

● качацца на трубаправодах сістэм ацяплення (у адваротным выпадку вялікая верагоднасць нанясення шкоды здароўю і выводу з ладу сістэмы ацяплення);

● узводзіць будынкі, саджаць дрэвы, шматгадовыя хмызнякі на адлегласці менш за 2м ад будаўнічай канструкцыі цеплавой сеткі ці бесканальнага трубаправода (вялікая верагоднасць выводу з ладу трубаправодаў цеплавой сеткі; уцечка цепланосьбіта, які можа выклікаць апёкі);

● заўважыўшы струменьчыкі пару на трубаправодзе цеплавой сеткі – наближацца да месца парэння; неабходна апавясціць пра гэта аварыйную службу ЎП ЖКГ (гэта звязана з рызыкай для жыцця).

# Беларускія вадалазы выявілі таямнічы карабель

**Таямнічы карабель на дне возера Нарач знайшлі вадалазы-аматары. Знаходка адносіцца да часоў Першай сусветнай вайны. Судна пакуль што не атрымалася апазнаць, перадае МТРК «Мир».**

Браняваны корпус дасягае даўжыні ў 10 метраў, у ім маецца вялікая прабоіна. Цяпер дайверы разам з навукоўцамі спрабуюць раскрыць таямніцу 100-гадовай даўнасці. Вестак пра бітвы расійскага флоту на Нарачы да гэтага практычна не было.

*mir24.tv/news/Science*




*Самую мілую, абаяльную і прывабную дзяўчыну*

**Ірыну Канстанцінаўну Круглую**

**Віншуем з днём нараджэння!**



Двадцать пять – чудесный возраст.
Двадцать пять – пора побед.
Лишь тебе сияют звёзды,
Дарит солнце ясный свет.
Пусть не будет в жизни бури,
Только музыка и смех.
Пусть с тобою вечно будут
Счастье, радость и успех!

*Сяброўка Алена і яе сям'я.*

**Дзмітрыя Міхайлавіча Шылёнка**

**Віншую з прафесійным святам!**



Своего любимого милиционера
Сегодня рада удостоить любой награды!
И хочу от души пожелать
Любых вершин достигать!
Пусть спокойной будет работа,
Ведь тебя отпускать неохота.
По тревоге, на вызова –
Чтобы мирными были дела!
А ещё я желаю удачи,
Счастья, радости, мира, добра.

*Твая жонка.*

# З дапамогай насельніцтва выяўляецца вялікая колькасць фактаў браканьерства

■ **А.В. Протас,**
*начальнік Глыбоцкай міжрайінспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.*

Дзяржаўная інспекцыя аховы жывёльнага і расліннага свету пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь надае велізарную ўвагу арганізацыі ўзаемадзеяння інспекцыі з насельніцтвам. Ва ўсіх інспекцыях арганізаваны тэлефоны «гарачай лініі», праводзяцца сустрэчы з насельніцтвам, «круглыя сталы» і іншыя мерапрыемствы. Супрацоўнікі Глыбоцкай міжраённай інспекцыі таксама імкнуцца максімальна ўзаемадзейнічаць з насельніцтвам: выяўлецца значная колькасць фактаў браканьерства.

Так, 17 кастрычніка 2011 года ў Глыбоцкую міжрайінспекцыю паступіла паведамленне пра тое, што на возеры Царкавішча Глыбоцкага раёна ўсталяваны браканьерскія сеткі. Супрацоўнікамі інспекцыі неадкладна былі арганізаваны мерапрыемствы па затрыманні ўладальніка сетак, і каля 20 гадзін вечара затрыманы жыхар в. Луцк-Масарскі грамадзянін П., які незаконна здабыў 10 асобінаў шчупака, 31 асобіну плоткі і 3 асобіны акуня. Адзнаку яго дзеянням дасць раённы суд.

Многае ў працы інспектараў залежыць ад аператыўнага рэагавання на паведамленні грамадзян. Так, 19 кастрычніка 2011 года супрацоўнікі Глыбоцкай міжраённай інспекцыі знаходзіліся ў камандзіроўцы ў г. Віцебску. Каля 13 гадзін дня ў Віцебскую міжраённую інспекцыю паступіла паведамленне пра тое, што на возеры Доўгае Бешанковіцкага раёна ажыццяўляецца незаконная здабыча рыбы сеткамі спосабам загону. А ўсе супрацоўнікі Віцебскай інспекцыі тым часам знаходзіліся ў рэйдавых мерапрыемствах і адзін-адзіны інспектар не змог бы арганізаваць затрыманне браканьераў. Супрацоўнікі Глыбоцкай міжрайінспекцыі выкарысталі свой асабісты транспарт і аказалі дапамогу калегам. Каля 14 гадзін, аператыўна прыбыўшы на возера Доўгае, якое размешчана за 60 км ад г. Віцебска, затрымалі двух жыхароў г. Бешанковічы, якія пры дапамозе 8 лесачных сетак паспелі здабыць 7 асобінаў шчупака, 43 асобіны карася, 2 асобіны ляшча, 8 асобінаў акуня, 22 ракі вузкапалыя. Шкода, прычыненая прыродным рэсурсам, склала больш за 2 млн. рублёў. Затрыманыя дастаўлены ў Бешанковіцкі РАУС, вырашаецца пытанне пра ўзбуджэнне крымінальнай справы.

Супрацоўнікі Глыбоцкай міжрайінспекцыі ўдзячныя грамадзянам за аказваемую дапамогу ў барацьбе з браканьерамі і парушальнікамі прыродаахоўнага заканадаўства.

Пра ўсе правапарушэнні прыродаахоўнага заканадаўства Вы можаце паведаміць на тэлефон «гарачай лініі» Глыбоцкай міжрайінспекцыі : 8-02156-28670, маб. МТС: 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49.

# Урад Беларусі мае намер больш жорсткімі мерамі змагацца з п'янствам

**У Беларусі неабходна зрабіць больш жорсткімі меры барацьбы з п'янствам. Пра гэта заявіў намеснік прэм'ер-міністра Анатоль Тозік, выступаючы 21 кастрычніка на сумесным пасяджэнні абедзвюх палат Нацыянальнага сходу.**

Ён падкрэсліў, што больш як чвэрць выклікаў хуткай медыцынскай дапамогі звязаны з алкагольным або наркатычным ап'яненнем прама або апасродкавана.

Апрача таго, паводле яго слоў, з пачатку года затрымана больш як 30 тысяч нецвярозых вадзіцеляў: кожны дзясяты з іх сеў за руль у стане алкагольнага ап'янення паўторна.

«Неабходна на заканадаўчым узроўні забяспечыць кампенсацыю ўсіх затрат на лячэнне хвароб, звязаных са злоўжываннем алкаголем, за кошт саміх п'яных, — сказаў Тозік. — А ў вадзіцеляў, затрыманых п'янымі за рулём, павінны забірацца вадзіцельскія правы пажыццёва, аўтамабіль — канфіскоўвацца ў даход дзяржавы незалежна ад таго, каму належыць — самому вадзіцелю, яго сваяку ці сябру».

Паводле яго слоў, у хуткім часе на разгляд Палаты прадстаўнікоў плануецца ўнесці законапраект, у якім будуць выкладзены новыя метады барацьбы з п'янствам.

У сваю чаргу дэпутат Уладзімір Здановіч прапанаваў таксама ўвесці крымінальную адказнасць за продаж спіртнога непаўналетнім. «І не толькі ў дачыненні да прадаўцоў, але і тых «добразычліўцаў», якія непаўналетнім у гэтым дапамагаюць», — удакладніў ён.

*Таццяна Каравянкова, БелаПАН*

## ІМЯНІНЫ

**27 кастрычніка**
**Пр.**:Праскоўі, Мікалая, Назара, Пратаса, Селівана.
**К.**:Сабіны, Вінцэнта, Зоі, Пятра.

**28 кастрычніка**
**Пр.:** Аляксандра, Леаніда, Міхаіла,Дзмітрыя, Івана, Сямёна, Сяргея.
**К.:** Антона, Тадэвуша.

**29 кастрычніка**
**Пр.**:Івана, Яўгена.
**К.:** Міхала, Нарцыза, Тодара, Яцкі, Віялеты, Серафіны.

**30 кастрычніка**
**Пр.**:Андрэя, Антона, Аляксандра, Кузьмы, Андрэя.
**К.:** Анжэлы, Андрэя, Эдмунда.

**31 кастрычніка**
**Пр.:** Іосіфа, Златы, Андрэя,Сяргея, Юльяна.
**К.:** Антаніны, Лукі, Урбана.

**1 лістапада**
**Пр**.: Клеапатры, Івана, Сергія.
**К.:** УСІХ СВЯТЫХ.

**2 лістапада**
**Пр.:** Арцёма, Германа,Мікалая, Паўла, Леаніда.
**К.:** ДЗЯДЫ. Еўдакіі, Тамаша, Багдана. Эварыста, Людмілы.

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Афинский царевич, ученик Деметры | | Река в Кировской области | | Кремнистая горная порода | Спортсмен | | Кормовое растение | Герой Жоржа Сименона |
| | | | | | | | | |
| Сказанное не всерьез | | Самолет | | Лекарственное растение | Франц. физик | | | |
| | | | | | Левый приток Дуная | | | |
| Шелковая ткань | | | | | Австралийская птица | | Чернорабочий в Азии | |
| Франц. мелкая монета | | Индийская кобра | Японская резная фигурка | | | | | |
| | | | | | | Крыша | | Столица гос-ва в Азии |
| Метал. нагрудный знак | Птица сем-ва чистиковых | | Детская игрушка | | | | | |
| | | | | | Злак | | | |
| Часть слова | | Порода сибирских собак | | Взрывчатое вещество | Город в Бельгии | | Англ. актеры, Эдмунд и Чарлз ... | |
| | | | | | | | | |
| Синтетическое волокно | | Остров в Финском заливе | | | | | | |
| | | | | | Женское имя | | | |

**Ответы на сканворд № 42**
**По горизонтали:** Экстракт. Лама. Филе. Саки. Тир. Андроник. Квазар. Гамаюн. Ла. Имам. Караул. Ми. Поп. Ишак. Океан. "Ка". **По вертикали:** "Аэлита". Юта. Жара. Калина. Смерд. Таи. Сто. Кюи. Ревю. Низ. Керамика. Какапо. Канапе. Анилин. Аламак. Рок.

## ГАРАСКОП
### на новы тыдзень

**АВЕН.** Тыдзень будзе даволі напружаны. Будзьце гатовыя хутка расстаўляць прыярытэты, прымаць адказныя рашэнні. Магчымыя грашовыя паступленні і выгадныя пакупкі, але і траўмы таксама. Галоўнае - сур'ёзны падыход да ўсяго. Калі ўпэўнены ў справах, якія задумалі, яны сапраўды пройдуць паспяхова, а калі спадзяецеся на выпадак, проста чакайце. Выхадны спрыяльны як для развіцця асабістых талентаў, так і для сустрэч. Займіцеся хатнім добраўпарадкаваннем, штосьці пераабсталёўвайце, падрамантуйце.

**ЦЯЛЕЦ.** Жыццё для вас - гэта цаліна, якая патрабуе стараннага засваення. Наладзьцеся на выкананне любой руціннай працы, якая мае патрэбу ў канцэнтрацыі сіл, увагі і прадэманструйце сваю працавітасць. На працы могуць адбыцца сур'ёзныя змены, не варта прымаць паспешных рашэнняў. Майце справу толькі з надзейнымі людзьмі. Пазбягайце фінансавых страт, тады ваш кашалёк істотна папоўніцца. Адказнасць і разважлівасць - ваш страхавачны пояс. А здароўе не падвядзе, збояў не будзе.

**БЛІЗНЯТЫ.** На сцэне вашага жыцця вар'яцкая мітусня, а гэта шкодзіць здароўю - лепш адправіцца за кулісы. Адпачніце, пераасэнсуеце дапушчаныя памылкі, займіцеся любімай справай. Не варта лезці па галовах ці, яшчэ горш, выкарыстоўваць чорны піяр дзеля раскручвання іміджу. Прыслухоўвайцеся да чужых думак, парадаў. Але будзьце асцярожныя, авантурнікі могуць вам нашкодзіць. Калі надумаецеся дзеля справядлівасці кінуць нягоднікам праўду ў твар, зробіце сабе горш.

**РАК.** Паспяховая кар'ера - лёсавызначальны маяк, з упэўненасцю рухайцеся яму насустрач. Вас ніякай цяжкай працай не запалохаеш. Займацца не вельмі цікавымі, але неабходнымі справамі - ваш абавязак. Кіраўніцтва ацэніць вашы дзеянні справядліва, таму можна разлічваць на лаўры. Толькі ўтаймуйце ганарыстасць, інакш яна падрэжа вам крылы, патрэбныя для кар'ернага ўзлёту. Удасканальвайцеся, не адцягвайцеся на другарадныя справы. У крытычныя моманты паступайце сумленна.





**ЛЕЎ.** Калі жадаеце дасягнуць вызначаных мэт, дэманструйце ўсё, чым багатыя. Трымайце сябе ў руках, паколькі агрэсіўны "чорцік" усярэдзіне стане правакаваць на ваяўнічыя сваркі. Пакорліва рабіце тое, што ад вас патрабуецца, тады атрымаеце годную матэрыяльную ўзнагароду. Жадаеце разбагацець - імкніцеся не выдаваць інфармацыі, грошы любяць цішыню.



**ПАННА.** Вы будзеце ўсюды запатрабаваны, і гэта выдатна! Вас будзе суправаджаць поспех у новых праектах. Назапашвайце веды і досвед. Поспех пачатага залежыць ад вашай вынаходлівасці і нетрадыцыйнага падыходу. Ваша ініцыятыўнасць, арыгінальнасць плюс прагматызм - выдатны сплаў на будучыню для будаўніцтва мастоў супрацоўніцтва. У выхадны забудзьцеся пра ролю першапраходцы. Прытрымайце рэалізацыю асабістых планаў і незавершаных спраў да лепшых часоў.



**ШАЛІ.** Пачынайце тыдзень актыўна, тады будуць усе падставы чакаць добрых вынікаў. Наперадзе дзелавыя поспехі, таму не марнуйце дарма час. Трэба вырашыць старыя справы, каб планаваць штосьці новае. Настае момант, калі можна выправіць памылкі. А вашы распачынанні і ідэі падтрымаюць блізкія. Толькі трэба адмовіцца ад спрэчак і наўмысна пазбягаць вострых вуглоў. У выпадку непаразуменняў з дамачадцамі выносіць смецце на ўсеагульны агляд проціпаказана.



**СКАРПІЁН.** Не чакайце хуткага кар'ернага росту, лепш падумайце, як вам наладзіць адносіны з калегамі па працы. Наступіў час сур'ёзна заняцца сям'ёй, але пры гэтым не пазбегнуць скандалаў. Вас чакаюць як прыбытак, так і імклівыя выдаткі. У другой палове тыдня варта сканцэнтравацца толькі на працы. Вы зможаце нарэшце скончыць даўнія справы. Сябры пацешаць вас цікавымі прапановамі і, магчыма, падарункамі. У канцы тыдня не пачынайце новыя справы і, галоўнае, пазбягайце экстрэмальных забавак. Адпачынак - вось што вам трэба.



**СТРАЛЕЦ.** Кар'ерныя поспехі ідуць угару. Але ў другой палове тыдня не прымайце рэзкіх рашэнняў. Прыйдзецца перажыць цяжкія часы, мабілізуйце сілы, прыцягвайце новых фундатараў. Праганіце ленасць, не звяртайцеся да авантур, будзьце паслядоўнымі і практычнымі. Неўзабаве вы зноў зможаце ўзяць на сябе груз адказнасці. Настае спрыяльны перыяд для паездак, павышэння кваліфікацыі. Выхадныя прынясуць новыя знаёмствы. Сцеражыцеся няспраўнай тэхнікі.



**КАЗЯРОГ.** Фінансавае становішча па-ранейшаму на вышыні. Вас чакае поспех у дзелавых распачынаннях, толькі не давярайце староннім людзям. Аддаўшы лейцы кіравання ў рукі саюзніку, ненадакучліва падштурхоўвайце яго да правільнага рашэння. Больш увагі працы і кар'ерным подзвігам. Гэта не час для адпачынку, а час актыўных дзеянняў. Кіраўніцтва шчодра ўзнагародзіць вас за гэта. Звярніце свой погляд на абавязкі, калі яны ёсць - іх трэба раздаць. Спрыяльны час для паездак.



**ВАДАЛЕЙ.** У вас ёсць усе шанцы быць у цэнтры самых важных падзей. Натхнення хопіць на шматлікія справы, галоўнае, не спыняцца на дасягнутым. Дзеля светлай будучыні прыйдзецца паспрабаваць. Старонняя дапамога не будзе лішняй. У другой палове тыдня ў вас з'явіцца шанец пачаць новы праект, але не спяшайцеся рабіць катэгарычных высноў. У другой палове тыдня пазбаўцеся ад старога: мыйце, драйце, прыхарошвайце акружаючую прастору. Але гаспадарце разумна, не пускайце на вецер адкладзенае на "чорны дзень". Песціць падарункамі каханых, задавальняць уласныя капрызы трэба ўмерана.



**РЫБЫ.** Калі вам не вяртаюць пазыкі, не злуйцеся, устрымайцеся ад спакусы разбурыць сяброўскія сувязі. Яны важныя, і ніякія калатніны не павінны іх разарваць. Зрэшты, усё можа абысціся "малой крывёй", калі своечасова ўсвядоміце, што вам трэба рабіць стаўку не на грошы, а на здароўе і душэўны камфорт. На гэтым тыдні напоўніць кашалёк нязgжка. Фартуна працуе на вас. Можаце брацца за любую справу і зарабляць як інтэлектуальнай працай, так і кемлівасцю. На шляхах самарэалізацыі шлагбаум адкрыты.

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродка масавай інфармацыі № 1210, выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь 8 лютага 2010 г.

"Вольнае Глыбокае"
Заснавальнік: Прыватнае інфармацыйна-рэкламнае ўнітарнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс»

Газета выходзіць адзін раз на тыдзень. Аб'ём – 4 друкаваныя аркушы. Падпісана ў друк 25. 10. 2011 года ў 21.05
«Вольнае Глыбокае» надрукавана на газетнай паперы РВУП **«Завод газетнай паперы» (г. Шклоў).**
Наклад 2000 паасобнікаў

**Рэдактар : Уладзімір Іванавіч Скрабатун.**
**тэлефон / факс:** (02156) 2 46 14;
**E-mail:** vglybokaye@tut.by
Адрас для допісаў:
**211800 г. Глыбокае п/с 3**
Замова № 3295

Меркаванні выдаўца і аўтараў могуць не супадаць. Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць і падбор матэрыялаў. Спасылкі на "Вольнае Глыбокае" абавязковыя.

Газета набрана і звярстана на настольна-выдавецкім комплексе рэдакцыі газеты «Вольнае Глыбокае». Надрукавана ў РУП «Перамога», Міністэрства інфармацыі РБ, 222310, г. Маладзечна, вул. Таўлая, 11. Афсетны друк.
Юрыдычны адрас: вул. Шпітальная, 44, ком.1, г. Глыбокае.

ISSN 2077-8023

